# Тыднёвік Магілёўскі




№ 7 (122) 17-23 жніўня 2001 г. Бясплатна

# Перамога будзе дасягацца супольна







Фота IREX і Д.Новікава

*У панядзелак, 13 жніўня, пасьля доўгага абмеркаваньня, два кандыдаты ў прэзыдэнты – Уладзімер Ганчарык і Сямён Домаш у прысутнасьці прадстаўнікоў асноўных палітычных партыяў і грамадзкіх рухаў падпісалі нарэшце доўгачаканую выбарчую дамову: адзіным кандыдатам ад шырокай грамадзянскай кааліцыі застаецца Ў.Ганчарык, які пры ўмове выбраньня гарантуе прызначэньне С.Домаша прэм'ерміністрам.*

*Уладзімер Ганчарык па дамове ўзяў на сябе таксама шэраг іншых абавязацельстваў:*

*– у мінімальны тэрмін перадаць частку прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў ураду і прэм'еру ў рамках забесьпячэньня агульнага працэсу падзелу ўладаў*

*– правесьці дэмакратычныя парлямэнцкія выбары па зьмешанай, прапарцыйнай і мажарытарнай сыстэме*

*– аднавіць разбураную ў краіне дэмакратычную сыстэму ўлады праз пашырэньне паўнамоцтваў органаў мясцовага самакіраваньня*

*– узяць курс на забесьпячэньне дынамічнага разьвіцьця эканомікі з мэтаю ўзьняць жыцьцёвы ўзровень насельніцтва*

*– гарантаваць поўнае выкананьне канстытуцыйных палажэньняў аб сувэрэнітэце, незалежнасьці й імкненьні да нэўтралітэту*

*– зьдзяйсьняць шматвэктарную зьнешнепалітычную дзейнасьць, у падмурку якой – удасканаленьне ўзаемавыгодных партнэрскіх стасункаў з Расеяй, Украінай ды іншымі краінамі*

*– забясьпечыць інтэграцыю Беларусі ў агульнаэўрапейскую палітычную, эканамічную й гуманітарную прастору*

*– стварыць добрыя ўмовы для разьвіцьця нацыянальнай культуры, мовы, традыцыяў і выкарыстаньня нацыянальнай гістарычнай сымболікі беларускага народу*

*– стварыць грамадзкі тэлевізійны канал.*

*Разам з кандыдатамі, якія цяпер абавязаліся працаваць на перамогу супольна, дамову засьведчылі сваімі подпісамі прадстаўнікі кіраўніцтва Аб'яднанай грамадзянскай партыі, БНФ "Адраджэньне", Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада", Беларускай жаночай партыі "Надзея", Беларускай партыі працы, Партыі камуністаў Беларускай (зь некаторымі заўвагамі), руху "За новую Беларусь", арганізацыі "Рэгіянальная Беларусь" і грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя 97".*

*Пад дамовай у якасьці адабрэньня яе прынцыпаў і згоды актыўна спрыяць перамозе адзінага кандыдата подпісы паставілі былыя прэтэндэнты на пасаду прэзыдэнта Міхаіл Чыгір, Павал Казлоўскі, Сяргей Калякін, Міхаіл Марыніч і Аляксандар Ярашук.*

*У гэты ж дзень было падпісанае пагадненьне паміж У.Ганчарыкам і прадстаўнікамі дэмакратычнай моладзевай кааліцыі, што аб'ядноўвае 87 арганізацыяў.*

***Паводле афіцыйных паведамленьняў***

***ЗАЎТРА, 18 жніўня, У МЕНСКУ ЗЬБІРАЕЦЦА КАНГРЭС ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛАЎ БЕЛАРУСІ. ТЭМА ДЫСКУСІІ І МАЮЧАЙ БЫЦЬ ПРЫНЯТАЙ ТАКТЫЧНАЙ ПРАГРАМЫ СУПОЛЬНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ ЎСІХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПАРТЫЯЎ І АРГАНІЗАЦЫЯЎ – ЯК ПЕРАМАГЧЫ НА ВЫБАРАХ.***

# Рэгіянальны погляд на дамоўленасьць

***Доўгачаканая дамоўленасьць "Домаш-Ганчарык" будзе эфэктыўна працаваць пры ўмове згоды і прыняцьця гэтай новай выбарчай плятформы ў рэгіёнах. Менавіта ўзаеманасьцярожанасьць рэгіянальных (як афіцыйных, так і вольных ад канкрэтных абавязкаў) паплечнікаў абодвух кандыдатаў дасюль уносіла разлад у агульную працу і замінала прыняцьцю самой гэтай дамоўленасьці. Як жа сустрэтае ў нас паведамленьне аб тым, што цяпер зьнятыя ўсе перашкоды на шляху вызначэньня сапраўды адзінага апазыцыйнага кандыдата і, адпаведна, да ягонай рэальнай перамогі?***

**Віталь Васількоў, дырэктар ГА "Кола сяброў":**

– На маю думку, Сяргей Мікалаевіч Домаш зрабіў высакародны ўчынак, які сьведчыць аб тым, што людзі, якія працавалі на ягоную карысьць, не памыліліся ў лепшых якасьцях гэтага дастойнага чалавека. Ён рэальна, а не на словах, паказаў, што для яго краіна вышэй і больш важная за асабістыя амбіцыі і асабісты лёс. Спадзяюся, што гэта будзе з разуменьнем ацэненае ягонымі паплечнікамі ў нашай вобласьці.

**Сяргей Абадоўскі, юрыст абласной Грамадзкай ініцыятывы "Незалежнае назіраньне":**

– Дамоўленасьць лічу добрым знакам для магчымай перамогі дэмакратычнай кааліцыі на маючых адбыцца выбарах. Спадзяюся, што абодва нашыя мясцовыя штабы перааадолеюць нядаўняе напружаньне і разам возьмуцца за працяг агульнай справы на карысьць пераменаў у краіне. Аднак лічу, што зьняцьцё Домашам сваёй кандыдатуры адразу пасьля рэгістрацыі – памылка. Няхай бы ішлі разам да самага моманту выбараў, там бы людзі рашылі, хто сапраўды ёсьць адзіным прэтэндэнтам.

**Віктар Каралькоў, сустаршыня Горацкай грамадзкай структуры па незалежным наглядзе за выбарамі:**

– Абодва кандыдаты для мяне асабіста – аднолькавыя прадстаўнікі былой намэнклятуры, якія не кіруюцца клопатам аб краіне й не адчуваюць адказнасьці за яе бядотны стан. Яны, на мой погляд, проста крыўдуюць асабіста на Лукашэнку. Гэта не мае кандыдаты. Аднак, калі яны аб нечым дамовіліся (дай Бог, каб не аб тым, як лепш і хутчэй прадаць краіну Расеі) – дык гэта іхняя справа й іхняя адказнасьць. Што тычыцца нас, рэгіянальных назіральнікаў, мы будзем дзейнічаць не ў інтарэсах якога кандыдата, а на карысьць выбаршчыкаў ды іхняга права ня стаць ахвярамі падману.

**Уладзімер Шанцаў, старшыня абласнога ГА "Фонд імя Льва Сапегі", старшыня абласнога выбарчага штабу С.Домаша:**

– Я толькі што зь Менску, дзе мне пашчасьціла прымаць удзел ва ўрачыстай акцыі падпісаньня дамовы. Магчыма, што гэта быў самы прыгожы і ўрачысты момант за час нашай найноўшай гісторыі. Нейк нават фізычна адчувалася, што мы пераможам – калі мы ўсе разам. Не пакідала, праўда, і крыху сумнае пачуцьцё ад таго, што на першую ролю выйшаў ня першы чалавек, які перамог па рэйтынгу і колькасьці сабраных галасоў на папярэднім этапе кампаніі, а – другі. Атрымалася, што дэмакратычная апазыцыя, якая 10 гадоў ахвяравала на карысьць цывілізаваных пераменаў у краіне, вымушаная была саступіць прадстаўнікам былой намэнклятуры, якія адкрыта праявілі сябе праціўнікамі рэжыму толькі цяпер. Гэта найперш гаворыць аб тым, што рэжыму ўдалося ў выніку пастаяннага перасьледу апазыцыі ў шмат чым яе аслабіць. І ўсё ж пагадненьне падпісанае менавіта на ўмовах дэмакратычнай апазыцыі й на ейнай палітычнай плятформе. А гэта галоўнае, гэта зьяднала ўсе здаровыя сілы грамадзтва для агульнай перамогі. Яна, гэтая перамога, цяпер цалкам рэальная.



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Досыць яскравая крымінальная кроніка гэтых дзён сьведчыць, што зьбяднелы люд дбае найперш пра сябе, а не пра "агульнае-калгаснае". Так, у Горках мясцовыя міліцыянты затрымалі чалавека, які скраў паўтоны збожжа. Яшчэ паўтоны было днямі скрадзена двума слаўгарадзкімі вяскоўцамі ў родным калгасе імя Горкага... Дзяржава, занятая цяпер "бітвай за ўраджай", забываецца, як, дарэчы, і раней своечасова плаціць людзям заробленае. Апраўданьня крадзяжам, зразумела, няма. Аднак відавочна, што паўтоны збожжа не зьяўляюцца аптовай партыяй альбо спробай распачаць уласны гандлёвы бізнэс. Сяляне такім чынам вымушаныя ратаваць сябе і сем'і ад рабаўніцтва з боку дзяржавы.

Вобласьць на мінулым тыдні наведаў кіраўнік місіі АБСЭ ў Беларусі Ганс-Георг Вік. Нямецкі дыплямат меў сустрэчы як з прадстаўнікамі ўлады, так і з актывістамі мясцовых дэмакратычных сілаў. Сп.Віка цікавіла падрыхтоўка да галоўнага этапу прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. (Гэта, трэба падкрэсьліць, ня ёсьць падрыўной працай альбо ўмяшальніцтвам ува ўнутраныя справы. Гэта – абавязак кіраўніка місіі і яе ў цэлым, бо менавіта з такой мэтай на афіцыйнае запрашэньне ўрада краіны яна знаходзіцца і працуе ў Беларусі). Чыноўнікаў абласной "вэртыкалі" дыплямат заклікаў не парушаць замацаваных у законе дэмакратычных правілаў і нормаў ды забясьпечыць празрыстасьць і законнасьць выбарчага працэсу. А ў гутарцы з грамадзкімі назіральнікамі Г-Г. Вік падкрэсьліў выключную значнасьць незалежнага кантролю за галасаваньнем для міжнароднай высновы аб характары і сумленнасьці беларускіх выбараў. Гаворка ішла таксама аб тым, што адсутнасьць на гэты час запрашэньня ў краіну прадстаўнікоў адпаведнага міжнароднага Бюро па правах чалавека для арганізацыі назіраньня і ўдзелу ў ім – а гэта ўлады абавязаныя былі зрабіць паводле Лукашэнкаўскага подпісу пад Стамбульскім дакумэнтам – можа сьведчыць пра падрыхтоўку уладай несумленнага сцэнару выбараў. Аднак у такім разе, нагадаў сп.Вік, яны ня будуць прызнаныя цывілізаванай міжнароднай супольнасьцю.

Бібліятэкі вобласьці ледзь не засталіся на восень без пэрыядычных выданьняў. Па прычыне, ясная справа, адсутнасьці грошай. У мінулым нумары "ТМ" мы паведамлялі пра адключэньні ў шэрагу раённых бібліятэкаў тэлефоннай сувязі з-за даўгоў перад сувязістамі. Дзенідзе маўчаць яны па сёньня. А вось сродкі на газэты (зразумела, дзяржаўна-афіцыёзныя) улада знайшла хуценька. Пад выбары нельга, каб электарат заставаўся без уплыву "правільнай інфармацыі".

Новы шэф абласной міліцыі палкоўнік І.Сяргей правёў сваю першую прэсавую канфэрэнцыю. Ён абвесьціў, што працу з журналістамі зьбіраецца ладзіць адкрыта і галосна (пакуль невядома, ці лічыць ён журналістамі тых, хто працуе ў недзяржаўнай прэсе). Палкоўнік прызнаў, што ў вобласьці адбыўся рост колькасьці цяжкіх злачынстваў, пашыраецца п'янства і бытавая наркаманія, растуць выпадкі ўгону транспарту. А прафэсіяналізм і апэратыўнасьць міліцыі не адпавядаюць наяўнай крымінальнай сытуацыі.

У вобласьці расьце колькасьць гаспадарчых судовых спрэчак. Пра гэта паведаміў на паседжаньні абласнога гаспадарчага суда яго старшыня Віктар Багуслаўскі. Калі летась было разгледжана прыкладна 1750 справаў, то сёлета, за паўгодзьдзе – 1250. Паўстрымайцеся аднак радавацца, бо да "умацаваньня законнасьці і цывілізаванасьці ў эканамічных дачыненьнях" гэта адносінаў ня мае. Суды займаюцца спрэчкамі наконт запазычанасьцяў за электрычнасьць, паліва і г.д. Рост колькасьці зваротаў у гаспадарчыя суды такім чынам сьведчыць пра тое, што эканоміка не выздараўлівае, а хранічна хварэе. Пра тое сьведчыць і амаль поўная адсутнасьць замежнага ў яе інвэставаньня, што пад час знаходжаньня ў нашай вобласьці з жалем адзначыў кіраўнік прадстаўніцтва Міжнароднай фінансовай карпарацыі ў Беларусі Карл Дагенхарт. Ён патлумачыў гэта выключна эканамічнымі ўмовамі, якія склаліся ў нас з-за ўпартага будаўніцтва "рынкавага сацыялізму" замест разьняволеньня і капіталізацыі эканомікі.

Падобна на тое, што ў хуткім часе магілёўскі завод штучнага валакна імя Куйбышава нарэшце адчэпіцца ад "Хімвалакно". Будуць задаволеныя як кіраўніцтва апошняга, так адукаваныя эканамісты ды працоўны калектыў аб'яднаньня хімікаў. А вось у зіваўцаў радасьці ня будзе: прадукцыю ніхто не купляе, крэдыт за непрадуманае набыцьцё замежнага абсталяваньня ня выплачаны. Завод па сутнасьці стаіць, а не працуе. Праўда, старшыня аблвыканкаму Барыс Батура аптымістычна лічыць, што самастойнасьць куйбышаўцаў дапаможа ім знайсьці выйсьце, бо ня будзе больш шырокай сьпіны, за якой яны хаваліся.

*Сустрэнемся праз тыдзень.*
*Сымон Глазштэйн.*

## Стань у ланцуг неабыякавых людзей

Сёньня Магілёў наведаюць і правядуць шэраг сустрэчаў з грамадзкасьцю Людміла Карпенка і Ірына Красоўская. Жонкі вядомых людзей, адзін зь якіх памёр пры загадкавых абставінах, а другі быў скраўдзены невядомымі, працягваюць акцыю пратэсту і асуджэньня лукашэнкаўскага рэжыму пад назвай "Ланцуг неабыякавых людзей".

У межах акцыі жонкі бясьсьледна зьніклых і зьнянацку памёрлых беларускіх апазыцыйных палітыкаў (у гэтым сьпісе акрамя Генадзя Карпенкі стаіць і Анатоль Майсеня) наведалі расейскую сталіцу, сталіцы буйнейшых эўрапейскіх дзяржаваў і Вашынгтон. У сваёй краіне яны вядуць актыўную праваабарончую і грамадзкую дзейнасьць на карысьць дэмакратыі з мэтаю зьмены небясьпечнага цяперашняга рэжыму. Але найперш яны нястомна змагаюцца за добрае імя сваіх мужоў і сваіх сем'яў, апэлююць да напаўсоннага беларускага грамадзтва, папярэджваюць яго аб прыналежнасьці вышэйшых службовых асобаў да зьдзейсьненых над іхнымі мужамі злачынствах. За тое ўлада праз сваё БТ прыніжае жанчынаў і абражае іх. Бяздушна і ганарліва рэагуе на зразумелую настойлівасьць і актыўнасьць гэтых жанчынаў Лукашэнка. Аднак нішто ня можа зламаць дух і трываласьць няшчасных кабетаў, для якіх самым важкім у жыцьці разам з гадаваньнем дзяцей і ўнукаў засталося адно: даведацца праўды пра трагічны лёс мужоў і дамагчыся справядлівага пакараньня злачынцаў.

**... Сёньня Людміла Карпенка і Ірына Красоўская ў Магілёве. Тыя, хто ня зможа патрапіць на сустрэчу зь імі, павінны быць разам зь імі маральна. Толькі гэта – грамадзкая маральная еднасьць – дапаможа засьцерагчы нашу краіну ад паўтарэньня жудасных падзеяў савецкай гісторыі...**



Фота IREX

## Крок за крокам да самапавагі

***Нядаўна паўстаўшае рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне "Жаночы адказ" у гэтым годзе працуе ў рамках праекту з красамоўнай назвай "Крок за крокам", мэта якога – прыцягнуць жанчынаў розных узростаў і сацыяльнага статусу да актыўнага ўдзелу ў жыцьці па-за межамі працы і кватэры. Магілёўская сяброўка гэтага аб'яднаньня падала нам інфармацыю, якая друкуецца ніжэй.***

Днямі ў Менску прайшоў сэмінар удзельнікаў праекту "Крок за крокам". На ім ішла цікавая дзелавая гаворка пра тое, як арганізаваць жанчынаў да ўдзелу ў заканадаўчых ініцыятывах. Задача праекту – падрыхтаваць і перадаць у парлямэнт законапраект "Аб дабрачыннай дзейнасьці". Не сакрэт, што ў нашай краіне гэтая дзейнасьць манапалізаваная ўладай і знаходзіцца пад яе поўным і схаваным ад грамадзтва кантролі. А менавіта жанчыны з уласьцівымі ім ад самой прыроды сумленнасьцю, высакародзтвам і маральнасьцю маглі б найлепш распарадзіцца заходняй дапамогай на карысьць маючых у тым патрэбу, наладзіць і пашырыць дзелавыя сувязі зь сяброўкамі з усяго сьвету. На жаль, цяперашняе становішча мала спрыяе грамадзкай актывізацыі жанчынаў. На іх плячах застаюцца асноўныя і найбольш цяжкія клопаты па ўтрыманьні сем'яў і выхаваньні дзяцей. Яны першымі пазнаюць беспрацоўе. Яны найчасьцей самі маюць патрэбу ў дабрачыннай дапамозе, якая, аднак, знаходзіцца ў поўным распараджэньні дзяржаўнага Дэпартамэнта пад кіраўніцтвам аднаго зь верных паплечнікаў цяперашняга кіраўніка краіны. Нездарма, відаць, ахутаная таямніцай дзейнасьць гэтага ведамства, і нездарма аберагаецца сама гэтая тэма ад пабочнай увагі.

Наша грамадзкае аб'яднаньне ўтварыла Ініцыятыўную групу па зборы подпісаў пад "дабрачынным" праектам і за ўнясеньне яго на разгляд парлямэнту. Аднак Міністэрства юстыцыі без асаблівых тлумачэньняў адмовіла ў ейнай рэгістрацыі. Нас гэта не засмуціла і не напалохала. Мы працягваем сваю справу і давядзем яе да станоўчага завяршэньня. Спадзяемся, што дапаможа ў гэтым нам і ўсяму нашаму пакутнаму грамадзтву дзень 9 верасьня... А актыўных жанчынаў, якім надакучыла змагацца з праблемамі сам-насам, запрашаю да актыўнасьці і заваёвы грамадзкай павагі. Пачынаецца гэта, як вядома, з самапавагі.

*Ларыса ШУКАЙЛА*

## Маніторынг як сродак вяртаньня да законнасьці

Адной з адметных рысаў дзейнасьці праваабаронцаў ёсьць ейная адкрытасьць. Вось і цяпер, распачаўшы сваю чарговую акцыю, Магілёўскі праваабарончы цэнтар у асобе дырэктара гэтага грамадзкага аб'яднаньня Сяргея Абадоўскага распаўсюдзіў дакумэнт, у якім выкладаецца канцэпцыя, пасьлядоўнасьць і чакаемая эфэктыўнасьць заплянаванай на бліжэйшыя месяцы працы.

Дакумэнт гэты, у форме афіцыйнай заявы, накіраваны абласному ўпраўленьню юстыцыі, старшыні абласнога суда, старшыням раённых судоў. У ім паведамляецца, што з часу існаваньня ў Магілёве грамадзкай праваабарончай прыёмнай (а гэта 3 гады) больш за 1200 яе наведвальнікаў абгрунтавана скардзіліся на парушэньні сваіх правоў, якія ўчынялі, у тым ліку, суды розных інстанцыяў.

Магілёўскія праваабаронцы пры гэтых абставінах вырашылі распачаць з жніўня **маніторынг судоў.** Назіральнікі цэнтру будуць прысутнічаць на судовых паседжаньнях і фіксаваць усе факты парушэньняў заканадаўства і правілаў у судовых працэсах. Абагульнены матэрыял будзе апэратыўна даводзіцца да ўпраўленьня юстыцыі, абласнога суда і грамадзкасьці праз сродкі масавай інфармацыі.



Фота IREX

Аднак не раўнадушнае назапашваньне гэтых фактаў ёсьць мэтай маніторынгу, а зьмяненьне сытуацыі ў лепшы бок. Менавіта ў гэтым разьлічваюць праваабаронцы на дапамогу з боку як вышэй пазначаных інстанцыяў, так і грамадзкасьці.

Яшчэ адным вынікам маніторынгу павінна будзе стаць выданьне "Шэрай кнігі", куды будуць занесеныя ўсе парушэньні і, зразумела, іхныя "аўтары". Праваабаронцы спадзяюцца, што час, калі гэтыя дакумэнтальныя дадзеныя спатрэбяцца грамадзтву і новай дэмакратычнай уладзе для прыцягненьня да адказнасьці канкрэтных асобаў, якія безсаромна і безадказна парушаюць цяпер Канстытуцыю, законы і міжнародныя дамоўленасьці, – такі час можа наступіць у краіне даволі хутка. У тым ліку з дапамогай такіх інстанцыяў як упраўленьне юстыцыі, пракуратура і абласны суд, да якіх у пазначанай заяве ўтрымліваецца ня толькі паведамленьне аб распачатым маніторынгу, але й спадзеў на супрацоўніцтва.

*Уласная інфармацыя*

Міхаіл Пастухоў, Юры Тапарашаў, юрысты Цэнтру прававой абароны СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў

# Гладка было на паперы...

**_Улада дэманстратыўна парушае выбарчае заканадаўства, а Цэнтральная выбарчая камісія парушэньняў ня бачыць. Пацьвердзіліся самыя горшыя прагнозы мясцовых і замежных назіральнікаў наконт перадвыбарчай сытуацыі ў Беларусі. Гэтая сытуацыя штодзень пагаршаецца, набывае рысы глябальнай дзяржаўнай PR-кампаніі, калі выкарыстоўваюцца самыя брудныя прапагандысцкія тэхналёгіі._**

## Роўнасьць у няроўнасьці?

Беларускія тэлегледачы – патэнцыйныя выбаршчыкі – ужо прызвычаіліся бачыць разбэшчаныя "аналітычныя" праграмы шэрагу дзяржаўных прапагандыстаў, якіх даўно чакае лаўка адказчыкаў у судзе. Але сёньня яны – пад надзейнай аховай дзяржавы. Ім быў дадзены, як кажуць, картбляш на цынічную хлусьню: усё дазволена дзеля перамогі!

Мы ня будзем тут скрупулёзна разглядаць беларускае выбарчае заканадаўства. Нагадаем толькі, што артыкул 46 Выбарчага кодэксу прадастаўляе кандыдатам на пасаду прэзыдэнта роўныя правы на выкарыстаньне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. На паперы – так. А што насамрэч?

25 ліпеня 2001 года Цэнтральная выбарчая камісія выдала чарговую адыёзную пастанову аб парадку выкарыстаньня дзяржаўных СМІ падчас падрыхтоўкі і правядзеньня прэзыдэнцкіх выбараў. У ёй вызначаныя 8 цэнтральных дзяржаўных газэтаў, у якіх кандыдаты на прэзыдэнта могуць адназразова надрукаваць свае перадвыбарчыя праграмы. Зазначана пры гэтым, што аб'ём публікацыі ня можа быць больш за пяць машынапісных старонак (каля 9 тысяч друкаваных знакаў).

Паўстае пытаньне: ці можна надрукаваць перадвыбарчую праграму ўва ўсіх гэтых газэтах, ці толькі ў адной зь іх? І як быць з абласнымі дзяржаўнымі газэтамі, з сотнямі "раёнак", газэтамі прадпрыемстваў, іншымі выданьнямі, што фінансуюцца за кошт дзяржавы? Верагодна, што ў іх надрукавацца няўгодным кандыдатам будзе нельга. У той жа самы час усе так званыя дзяржаўныя газэты даўно і актыўна вядуць масавую прапаганду на карысьць адзінага кандыдата ад улады.

Няма сумневу, што ў любой цывілізаванай краіне падобная практыка была б прызнаная грубейшым парушэньнем выбарчага заканадаўства. І ўсё гэта, безумоўна, прывяло б да таго, што кандыдат ад улады быў бы зьняты з кампаніі. Але наш Цэнтарвыбаркам маўчыць...

Вышэйпамянёная пастанова прадугледжвае, што кандыдаты могуць выступаць і выкладаць свае плятформы па нацыянальнаму тэлебачаньню і радыё. Ім даецца па два выступу ня больш 30 хвілінаў кожны.

Падчас рэалізацыі гэтага пункту пастановы можа ўзьнікнуць нямала праблемаў. Галоўным чынам таму, што выступы кандыдатаў будуць трансьлявацца... у запісы. Той, хто знаёмы з тэлевізійнай "кухняй", добра ведае, што запісы праграмаў, здараецца, пераўтвараюцца ў шматчасовую цяжкую працу. Шмат сілаў на гэта кладуць як тэлевізійшчыкі, так і выступоўцы. А калі ўлічыць, што ўсе праграмы сучаснага БТ праходзяць жорсткую ідэалягічную цэнзуру... Ня выключана, што пасьля ўжо ўзгодненага варыянту запісу яго моцна "адрэдактуюць", і зусім не на тэлевізіі...

У выніку высьветліцца, напрыклад, што выступоўца "парушыў" нейкія палажэньні Закона аб друку й таму запіс не дадуць у эфір. А каб выправіць асобныя недарэчнасьці, кандыдату могуць прапанаваць адрэдактаваць ягоны выступ якраз такім чынам, каб ён спадабаўся Галоўнаму цэнзару. Наўрад ці дэмакратычны кандыдат пагадзіцца на гэта, і ў выніку, можа стацца, застанецца без тэлеэфіру.

Ёсьць яшчэ пытаньне: што з абласнымі тэлерадыёкампаніямі? Ці атрымаюць кандыдаты да іх доступ? Можна ўпэўнена прадказаць, што дапушчаны да іх будзе толькі кандыдат улады, бо менавіта яму яны й падначаленыя. Такім чынам, відавочным ёсьць тое, што ніякіх роўных магчымасьцяў для ўсіх кандыдатаў тут няма.

## Навошта падпісваліся абавязацельствы?

Усе ведаюць, што пад Дэклярацыяй, што была прынятая на Стамбульскім саміце АБСЭ ў лістападзе 1999г., стаіць подпіс Лукашэнкі. А ў ёй запісана: "Мы абавязуемся забясьпечыць сумленнае спаборніцтва як паміж кандыдатамі, так і паміж партыямі, у тым ліку шляхам прадастаўленьня ім доступу да СМІ й паважаць свабоду сходаў" (пункт 26). І далей: "Мы бярэм адказнасьць забясьпечыць свабоду сродкаў масавай інфармацыі, якая ёсьць асноўнай умоваю існаваньня плюралістычных і дэмакратычных грамадзтваў" (пункт 27).

А.Лукашэнка добраахвотна падпісаўся пад гэтым Дакумэнтам і тым самым абавязаўся цалкам выконваць гэтыя патрабаваньні. А што ёсьць насамрэч? Высокая міжнародная дамоўленасьць для сёньняшняй нашай улады – нікчэмная паперка.

Між тым СМІ граюць адмысловую ролю ў выбарчай кампаніі. Яны ня толькі інфармуюць грамадзтва, але й кантралююць сумленнасьць і законнасьць дзеяньняў арганізатараў выбараў. Таму першачарговай задачай дзяржавы, што імкнецца стаць дэмакратычнай, ёсьць стварэньне свабоднай і бясьпечнай атмасфэры для працы СМІ, у якой яны маглі б своечасова і дакладна паведамляць аб усіх фактах парушэньняў на ўсіх этапах выбарчай кампаніі.

Зразумела, што пры гэтым СМІ павінны дзейнічаць у рамках заканадаўства. Яны ня могуць быць выкарыстаныя дзеля распальваньня нянавісьці сярод розных групаў насельніцтва, дзеля перасьледу апанэнтаў. Пра гэта таксама ёсьць запіс у Стамбульскай Дэклярацыі 1999 года.

Бо без свабоды СМІ выбары аніякім чынам ня могуць быць прызнаныя хаця б мінімальна адпавядаючымі стандартам дэмакратыі. На вялікі жаль, гэтая ўмова ў нас анідзе не выконваецца. І магчыма, што падчас разгортваньня кампаніі парушэньні ў сфэры свабоды СМІ стануць яшчэ больш распаўсюджанай зьявай, чым гэта ёсьць зараз.

## Ісьці ці не?

Мы мяркуем, што адной з прычынаў вельмі страннай затрымкі з запрашэньнем назіральнікам ад АБСЭ ёсьць боязь уладаў. Яны баяцца, каб тыя наўпрост ня ўбачылі іхных супрацьпраўных дзеяньняў у пэрыяд падрыхтоўкі і правядзеньня выбараў. Бо назіральнікі, якія б знаходзіліся ў Беларусі дастаткова доўга, сталі б непажаданаю перашкодаю "правільнаму" правядзеньню выбарчай кампаніі. Да таго ж міжнародныя арганізацыі ўжо зьвярнулі ўвагу на аднабаковую практыку фармаваньня выбарчых камісіяў усіх узроўняў, у склад якіх насуперак закону не ўвайшлі прадстаўнікі апазыцыйных партыяў і рухаў. Гэтыя камісіі складаюцца цалкам з адданых уладзе людзей. Зразумела, што яны выканаюць любы загад "зьверху".

У такіх умовах абсалютная колькасьць апытаных рэспандэнтаў, у тым ліку супрацоўнікаў дзяржаўнага апарату, адназначна схіляюцца да таго, што выбары будуць несправядлівымі і непразрыстымі.

Мы ня верым, што за час, які яшчэ застаўся да дня выбараў, "вэртыкаль" зьменіць стыль свайго кіраваньня і стане працаваць па законе. Хутчэй трэба чакаць адваротнага: яшчэ больш брутальных дзеяньняў.

Шмат хто з выбаршчыкаў сёньня разважае: ісьці ці не на гэтыя выбары? Асобныя палітыкі заклікаюць да байкоту чарговых псэўдавыбараў. Аднак мы ўпэўненыя, што ў любым выпадку выбаршчыкі павінны выканаць свой грамадзянскі абавязак і ўсе прыйсьці на ўчасткі.

**Бо сапраўднае волевыяўленьне народа так ці інакш праявіцца. Шматлікія незалежныя назіральнікі зробяць усё, каб беларуская і міжнародная грамадзкасьць даведалася аб тым, якая ўлада будзе тут на наступныя пяць гадоў. Раскажуць праўду пра выбары і незалежныя СМІ.**

## ЖЫЦЬЦЁ. КРАІНА. ВЫБАРЫ



## ВЕСТКІ З ВЫБАРЧАЙ ПРАСТОРЫ

### Мабілізацыйны канцэрт

10 жніўня ў Бялынычах пры падтрымцы абласнога штабу мабілізацыйнай кампаніі адбыўся рок-канцэрт з удзелам гуртоў "White Night Blues" і "Крама".

Канцэрт выклікаў сапраўдны фурор сярод бялыніцкай моладзі, і ўся заля мясцовага кінатэатру, разьлічаная на 300 гледачоў, была запоўненая. Перад пачаткам выступу прысутным раздаваліся адмысловыя буклеты з інфармацыяй пра гурты і зь лягатыпам мабілізацыйнай кампаніі, а таксама налепкі з сонейкам. Музыкі з "Крамы" гралі ў майках з сымбалем "Выбірай". Ім так падабалася мясцовая публіка, што яны паабяцалі прыехаць яшчэ раз.

За паўтары гадзіны канцэрту ў кінатэатры ажно два разы вырубалася сьвятло. Праваахоўныя органы цікавасьці да падзеі не праявілі.

### Агітацыйная дыскатэка

11 жніўня ў Чэрыкаве падчас звычайнай дыскатэкі актывісты кампаніі "Выбірай" правялі акцыю "Прыйдзі і прагаласуй!". Хлопцы й дзяўчаты, апранутыя ў майкі зь лягатыпам мабілізацыйнай кампаніі, раздавалі моладзі шарыкі, у кожным зь якіх знаходзілася маленькая ўлётачка наступнага зьместу: "9 верасьня – прэзыдэнцкія выбары. Выбірай, ці выбяруць за цябе!!!". Усім наведнікам танцаў (а гэта калі 200 чалавек) былі падараваныя каляндарыкі й налепкі кампаніі "Выбірай".

### Кватэрны абыход

Працягваецца кампанія магілёўскага Маладога Фронту па абыходзе кватэраў "Зваротны адлік". Кожны дзень маладафронтаўцы наведваюць кватэры з нумарамі, якія супадаюць з колькасьцю дзён, што засталіся да прэзыдэнцкіх выбараў, вінуюць іх насельнікаў, распавядаюць пра выбары і раздаюць каляндарыкі ды значкі.

Рэакцыя людзей самая разнастайная. Ад цалкам негатыўнай да дружалюбнай, калі маладых беларускіх дэмакратаў нават запрашаюць на гарбату. Магілёўскі МФ лічыць гэтую акцыю самай эфэктыўнай у мабілізацыйнай кампаніі й запрашае ўсе грамадзкія арганізацыі гораду далучыцца да яе правядзеньня.

***Паводле інфармацыі абласнога штаба мабілізацыйнай кампаніі (Дзяніс Мельянцоў, тэл. 25-84-00)***

### Тэрмінова... са спазненьнем

Учора стала вядома, што афіцыйны Менск нарэшце накіраваў у Бюро па дэмакратычных інстытуцыях і правах чалавека АБСЭ запрашэньне прыняць удзел у наглядзе за прэзыдэнцкімі выбарамі. Зроблена гэта са значным спазненьнем, якое тлумачыцца відавочным нежаданьнем беларускай улады, каб міжнародныя назіральнікі прысутнічалі ў часе фармаваньня выбарчых камісіяў і працэдуры праверкі сапраўднасьці подпісаў за кандыдатаў. Улада імкнецца такім чынам пераўтварыць замежны нагляд за выбарамі ў пустую фармальнасьць.


Фота Д.Новікава

АБ ВЕЧНЫМ І СЁНЬНЯШНІМ...

# Ёсьць шанец пераадолець наканаванасьць



**Месяц таму мы абвяшчалі аб падрыхтоўцы на радыё "Рацыя" і "Нямецкая хваля" жывога эфіру з Васілём Быкавым. Гаворка зь пісьменьнікам, якую чулі шмат у якіх краінах Эўропы нядаўна адбылася. З больш чым двухгадзіннай перадачы мы адаптавалі да газэты невялікі фрагмэнт, што тычыцца заўсёды актуальных для нашай краіны праблемаў.**

**Пытаньне да В.Быкава:** Я хачу спытаць Вас, ці не існуе праблема перш за ўсё ў сьвядомасьці саміх беларусаў, якія лічаць, што "я – русский" ці "я пад уладай старэйшага брата". Ці справа толькі ў палітычных дачыненьнях паміж Расеяй і Беларусьсю? Што б Вы маглі падказаць тут народу, каб ён здолеў выйсьці з гэтага рабства на свабоду?

**Адказ Васіля Быкава:** Я думаю, што адказ на гэтае пытаньне беларусы шукаюць ужо некалькі стагодзьдзяў, але, на жаль, адказ гэты не знаходзяць. Выглядае, што гэта – чыста мэтафізычнае паняцьце. Некаторыя наракаюць на нізкую нацыянальную самасьвядомасьць, што абсалютна справядліва. Гэтая нізкая сьвядомасьць, дарэчы, галоўны чыньнік таго, што нацыянальны лёс Беларусі такі як ёсьць. Пераадолець жа сытуацыю, абапіраючыся на нейкі прымусовы плян, здаецца, немагчыма. Ніякае хаджэньне ў народ тут не дапаможа. Гэтае хаджэньне малаэфэктыўнае, бо народ вельмі скептычна ставіцца да любых словаў і заклікаў, ён не давярае слову – таму, што зашмат за сваю гісторыю наслухаўся словаў, якія не спраўдзіліся. Толькі гістарычны вопыт, толькі час можа чаму-небудзь навучыць беларусаў і, перш за ўсё, можа пасадзейнічаць іхняй нацыянальнай самасьвядомасьці. Нарэшце беларусы павінны зразумець, што яны – такі ж самы этнас Эўропы, як іншыя. Адрозьненьне ў тым, што этнічнае ўсьведамленьне спазьнілася. Ну што тут можна сказаць... Трэба чакаць і, як можаш, дапамагаць гэтаму працэсу, у першую чаргу – каб паўстала нацыянальнае самаўсьведамленьне.

**Пытаньне да В.Быкава:** А Вы не баіцеся, што час ужо страчаны, што ідэя зьліцьця з Расеяй, адраджэньня нанова нейкага Савецкага Саюзу можа наогул перакрэсьліць той працэс, пра які Вы кажаце?

**Адказ Васіля Быкава:** Зразумела, так можа адбыцца. Бо нашмат больш актыўна за натуральныя працэсы паўстаньня нацыянальнай самасьвядомасьці дзейнічаюць працэсы яе падаўленьня. Гэта асабліва брутальна робіцца ў сфэры культуры і мовы. Мы ведаем, як за апошнія некалькі гадоў упала наша нацыянальная культура, як у выніку сплянаваных сілавых акцыяў беларуская мова амаль што зьнікла з ужытку ў Беларусі. Канешне, гэтыя рэчы абсалютна непрымальныя ня толькі для беларусаў, але і для ўсяго цывілізаванага сьвету. Тым ня менш, яны робяцца ў краіне, часьцей за ўсё з палітычных матываў. Верагодна, што справа ў рэжыме. Пакуль сёньняшні рэжым будзе існаваць, ніякай палёгкі ці зьменаў да лепшага чакаць не выпадае.

**Пытаньне да Васіля Быкава:** Спадар Васіль, якое значэньне будуць мець для Беларусі прэзыдэнцкія выбары? Ці спраўдзяцца надзеі на перамены?

**Адказ Васіля Быкава:** Цяжка сказаць. Я ніколі не прадказваю такія рэчы, я не экстрасэнс. Я думаю, што тут ніхто ня можа прадбачыць, ніякі самы разумны аналітык. Бо ўсё, што адбываецца ў Беларусі, адбываецца па-за кантэкстам эўрапейскай гісторыі. Тут дзейнічаюць, я бы сказаў, нейкія незямныя сілы, якія, аднак, маюць вельмі зямное паходжаньне. Я сумняюся, што будуць якія-небудзь зьмены ў Беларусі, па меншай меры, да канца гэтага году. Хоць я хацеў бы памыліцца ў сваіх сумненьнях. Аднак я баюся, што ў выбарчым працэсе, які чакае Беларусь, будзе рашаць не народ, ня выбаршчыкі, а сталінскі прынцып: выйграе той, хто лічыць галасы. Але ж я ўпэўнены, што нягледзячы на ўсё злое, што можа адбыцца падчас падліку галасоў, неабходна ісьці на выбары. Гэта проста неабходна – выканаць свой грамадзянскі абавязак.

*Паводле радыё "Рацыя"*

## Паляваньне на крамолу

Сьвяточны і нават узьнёслы настрой магілёўскіх актывістаў прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі У.Шанцава і У.Гайдукова, зь якім яны вярталіся на прыватнай аўтамашыне зь Менску, дзе прымалі ўдзел у акцые ўрачыстага падпісаньня дамовы "Ганчарык – Домаш", быў сапсаваны позна ўвечары каля Бялынычаў – за 50 км ад абласнога цэнтру.

Менавіта тут пост ДАІ, як гэта руцінна робіцца апошнія гады пасьля апоўначы, спыніў машыну. Аднак сумуючыя сэржанты не задаволіліся праверкай дакумэнтаў і вонкавым аглядам машыны, а загадалі адчыніць таксама багажнік. Тут іх чакала міліцэйская ўдача: у багажніку аўтамабіля яны ўбачылі некалькі стосаў газэтаў, якія аказаліся спэцвыпускамі "Народнай Волі" і "Нашай Свабоды", прысьвечанымі апошнім падзеям на палітычнай выбарчай прасторы. Даішнікі, якія, відаць, былі належным чынам праінструктаваныя, па тэлефоне выклікалі мясцовае міліцэйскае начальства. Хутка да месца затрыманьня зьехаліся ці не ўсе чыны раённага аддзела ўнутраных справаў. Дэмакратаў супрваджалі ў пастарунак, дзе пачалася звычайная бадзяга: затрыманыя чыталі міліцыянтам палітынфармацыю, а тыя складалі традыцыйны пратакол "задержания и изъятия". Толькі позна ўначы затрыманых Шанцава і Гайдукова адпусцілі дахаты, паабяцаўшы вярнуць газэты, як было сказана, "пасьля эспэртызы". У чым яна будзе заключацца, засталося невядомым. Дэмакраты мяркуюць, што міліцэйскія чыны вырашылі й самі пачытаць "крамолу".

*Уласн.інф.*

## ... А пракурора не знайшлі

***11 жніўня на Цэнтральным магілёўскім стадыёне "Спартак" адбыўся канцэрт беларускіх і расейскіх эстрадных выканаўцаў, які меўся ўхваліць саюз Беларусі з Расеяй. Арганізатарамі выступілі БПСМ ды пастаянны камітэт саюзнай дзяржавы.***

Ні для каго ні сакрэт, што расейскія поп-зоркі далёка не альтруісты й што іхныя ганарары ўяўляюць сабой даволі ўнушальныя сумы, якія можна супаставіць з гадавым бюджэтам некалькіх беларускіх сем'яў. Арганізатары нават не палічылі належным акупіць хоць частку выдаткаў, прадаўшы паўную колькасьць білетаў. Усе гледачы прыйшлі на канцэрт па запрашэньнях, якія па сваіх каналах здолелі здабыць таксама сябры магілёўскай суполкі Маладога Фронту, негвалтоўнага супраціўнага руху "Зубр" ды партыі БНФ "Адраджэньне".

Кожная з гэтых арганізацыяў дзейнічала па сваёй уласнай праграме. Сябры БНФ раздавалі газэту "Рабочы", "зубры" – "Нашу свабоду". Спачатку міліцыянты ніяк на гэта не рэагавалі, а пасьля, атрымаўшы загад, пачалі дастаўляць людзей у бліжэйшы пастарунак, дзе, пасьля запісу пашпартных дадзеных, іх адпускалі. Але потым тых жа самых асобаў пачалі затрымліваць зноў. Тады ўжо складалі пратаколы вынятку, і актывістаў зноў адпускалі. Потым іх зноў хапалі й канфіскоўвалі газэты яшчэ раз.

А тым часам маладафронтаўцы, калі вядучы канцэрту папрасіў гледачоў зрабіць на трыбунах "жывую хвалю", у часе ейнага правядзеньня з воклічамі "Не саюзу дурняў!" разгарнулі белчырвона-белыя сьцягі. Пасьля невялічкай разгубленасьці міліцыянты затрымалі пяць чалавек, трое зь якіх былі непаўнагадовымі. Усяго ж за газэты й сьцягі былі затрыманыя 13 асобаў. Пасьля канфіскацыі сьцягоў міліцыянты паабяцалі потым прывезьці іх аднаму з затрыманых удзельнікаў акцыі дахаты.

У часе затрыманьня, тым ня менш, былі дапушчаныя грубыя парушэньні заканадаўства. Так, у прыватнасьці, міліцыянты не пусьцілі ў пастарунак праваабаронцаў Уладзімера Краўчанку ды Андрэя Куракова, а таксама сяструю аднаго непаўнагадовага маладафронтаўца. За гэтае парушэньне адказвае намесьнік начальніка Цэнтральнага РАУС Ермакоў. У часе знаходжаньня ў пастарунку аднаму з "зуброў" стала кепска – "прыхапіла" сэрца, аднак міліцыянты адмаўляліся выклікаць лекара. "Хуткую" выклікалі паплечнікі хлопца.

І яшчэ такая акалічнасьць. 11 жніўня на сваім працоўным месцы адсутнічаў дзяжурны пракурор, да якога праваабаронцы спрабавалі зьвярнуцца па згаданых фактах парушэньня закону з боку міліцыі.

*Алесь ДАЙНЕКА, карэсп. RR – адмыслова для "ТМ"*






Фота IREX

## З патрабаваньнем спыніць недапушчальны перасьлед

***Беларуская асацыяцыя журналістаў адрасавала Адкрыты ліст пракурору Гарадзенскай вобласьці В.Ліцьвінаву і начальніку КГБ М.Сворабу з нагоды незаконнага перасьледу з боку падначаленых ім структураў газэты "Пагоня".***

Нагадваецца, што яшчэ ў траўні ўсіх супрацоўнікаў газэты выклікалі ў аддзел барацьбы з тэрарызмам мясцовага КГБ для тлумачэньняў у сувязі з публікацыяй "Інтэграсты ў Гродна не прыедуць". У гэтым артыкуле ў якасьці ілюстрацыі да журналісцкага меркаваньня прыводзіліся вытрымкі з так званай заявы дасюль невядомай "Рады камандзіраў беларускай нацыянальнай самааховы". Гэбісты цікавіліся ня столькі інфармацыяй пра гэтую заяву, сколькі пытаньнямі арганізацыі дзейнасьці самой радакцыі. Некаторых журналістаў выклікалі ў ведамства па некалькі разоў, трымаючы тым самым людзей у напрузе і хваляваньні. У жніўні супрацоўнік КГБ запрасіў на "канфідэнцыяльную размову" журналіста Паўла Мажэйку. Гэтую размову журналіст расцаніў як "спробу звычайнай вярбоўкі ці ўскоснага запалохваньня", аб чым і паведаміў чытачам у сваіх нататках. Той жа супрацоўнік КГБ у гутарцы зазначыў, што "хоць закрыцьцё газэты не ўваходзіць у кампэтэнцыю КГБ, аднак для гэтага існуюць адпаведныя органы". Ужо на наступны дзень галоўнага рэдактара газэты Міколу Маркевіча выклікаў намесьнік пракурора вобласьці, які заявіў, што будзе рыхтаваць матэрыялы на закрыцьцё "Пагоні".

Згаданыя факты сьведчаць, адзначаецца ў Адкрытым лісьце БАЖ, пра выкарыстаньне праваахоўных органаў для ціску на незалежную прэсу, што зьяўляецца парушэньнем свабоды слова і забараняецца законам (арт. 48 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі").

Беларуская асацыяцыя журналістаў заяўляе пратэст супраць спробаў органаў КГБ весьці вярбоўку журналістаў і патрабуе спыніць умяшальніцтва ў дзейнасьць незалежных друкаваных выданьняў.

БАЖ таксама патрабуе правесьці службовае расьсьледаваньне фактаў, згаданых у Адкрытым лісьце і прыцягнуць вінаватых да ўсталяванай законам адказнасьці.

***Тэкст Адкрытага ліста прыняты ў Менску, на пасяджэньні праўленьня ГА "БАЖ" 14 жніўня 2001г.***

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Краснапольля



***У мінулую пятніцу сп.Сьцефаненка, які каардынуе дзейнасьць незалежных назіральнікаў за выбарамі прэзыдэнта ў раёне, зрабіў спробу атрымаць інфармацыю пра склад выбарчых камісіяў усіх узроўняў.***

У адказ на ягоны запыт старшыня раённай камісіі Тамара Каваленка... папрасту выклікала міліцыю! На выклік адрэагаваў сам начальнік міліцыі, які апэратыўна прыбыў на месца "здарэньня" і праверыў у "парушальніка спакою" дакумэнты. Пасля гэтага ён параіў грамадзкаму актывісту не чапаць краснапольцаў, бо пасьля ўзьдзеяньня радыяцыі яны сталі дужа нэрвовымі. На разьвітаньне галоўны міліцыянт паабяцаў, што з выбарамі ў раёне праблем ня будзе, так што і назіраць за імі ня трэба – самі справяцца.

### ...з Крычава



***Зь нядаўняга часу раённы выканаўчы камітэт пераўтварыўся ў рэжымны аб'ект. Зараз у будынак выканкаму можна патрапіць толькі выканаўшы шэраг патрабаваньняў.***

Калі ты маеш тую ці іншую патрэбу да чынавенства, то павінен распавесьці пра яе паставому міліцыянту, які сядзіць пры ўваходзе. Той патэлефануе патрэбнаму чыноўніку і, калі той пажадае цябе прыняць, – калі ласка, праходзь. Праўда, папярэдне міліцыянт зробіць яшчэ адмысловы запіс. Гэтае ўзмацненьне рэжыму выкліканае, відаць, выбарамі прэзыдэнта.

***Працягваецца небывалае па сваіх маштабах шэсьце імбрыёнаў шаленства, якое наведала й наш раён.***

Хворая на шаленства котка ўкусіла чатырох жыхароў вёскі Каранец. Зараз пацярпелыя праходзяць курс прэвэнтыўнага лячэньня ў тэрытарыяльным мэдыцынскім аб'яднаньні. Тым часам вяскоўцы зьвярнуліся да мясцовых уладаў з патрабаваньнем зьнішчыць усіх сабак і катоў.

*Андрэй КУЗЬМІН*

### ...зь Бялынічаў



***З пачатку года ў раёне стратнымі аказаліся 24 прамысловыя прадпрыемствы і арганізацыі, што складае 53,3 адсотка ад усёй іх колькасьці.***

Дэбіторская запазычанасьць вызначаецца лічбай у 2978,3 млн. руб., а крэдыторская дасягнула 6733 мільёнаў. Цікавы факт: грашовыя сродкі, якія маюцца на рахунках арганізацыяў, пакрываюць крэдыторскую запазычанасьць толькі на паўтара адсотка. У тым ліку ў прамысловасьці – на 0,9%, сельскай гаспадарцы – 0,5%, будаўніцтве – 3,3%, гандлі – 2,8%.

*Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ*

### ...з Чэрыкава



***У саўхозе "Ударнік" ёсьць зернесушылка, якая можа высушыць зерне ня толькі свайго саўхозу, але і суседніх гаспадарак.***

Аднак падведзеная да яе газавая труба не працуе: у раённым бюджэце няма 9 мільёнаў рублёў, каб будаўнікі-мантажнікі яе падключылі. А ў вёсцы Сакалоўка, дзе калгас "Прогресс", людзі кажуць, жыхары прыстасаваліся сушыць зерне з дапамогай дроваў – як рабілі продкі.

*Яўген ШАРАБУРКА*

### ...з Горак



***Мясцовыя чыноўнікі занепакоеныя сытуацыяй перад выбарамі. Нядаўна зь іхняга боку "прасачылася" інфармацыя наступнага зьместу.***

Быццам бы вынікі галасаваньня ў раёне ўжо вядомыя. А будзе так: датэрміновае галасаваньне – 40% за Лукашэнку; канчатковы вынік – каля 70% за Лукашэнку. Што ж, радуе хоць тое, што Горкі неяк апярэджваюць час. Цікава, як з тым самым справы ў іншых мясцінах?

***Ужо ня першы год паабапал Горак пацыху канаюць недастроі. Рэшткі комплексу КРС на 54 тысячы галоў, недабудаваныя цяпліцы ды шмат чаго яшчэ...***

Людзі цягнуць адтуль цаглін, жалеза, дошкі – усё, што можна скарыстаць ва ўласнай гаспадарцы. Улады вырашылі спыніць вандалізм: зруйнаваць недастроі. У хуткім часе помнікі мясцовай безгаспадарлівасьці будуць зьнішчаныя.

***За апошні тыдзень у горадзе зарэгістравана пяць пажараў. Загінуў у агні 74-гадовы жыхар вёскі Рэкта.***

Прычыны загараньняў – сапсаваная электраправодка, пакінутыя бытавыя электрапрыборы, небясьпечныя гульні з агнём дзетак ды п'янства.

***Факты выкрыцьця фальшывых даляраў ЗША сталіся ў нас звычайнай зьявай.***

Спачатку злодзеі выраблялі з "адзінак" соценныя паперкі, а цяпер супрацоўнікі мясцовай міліцыі "вылічылі" наплыў несапраўдных 50-даляравых паперак з Смаленску.

*Віталь АСТАНКОВІЧ*

## Вандалізм у Курапатах, сьвятым месцы...

У ноч на мінулую нядзелю невядомыя разбурылі мэмарыяльны знак, што быў усталяваны ад імя народу ЗША ў Курапатах.

На ўваходзе ў мэмарыял калісьці была ўсталяваная мэмарыяльная дошка з тэкстам, што тут пахаваныя ахвяры палітычных рэпрэсіяў. Гэты знак стаяў на драўляных слупах, якія з часам падгнілі. Выкарыстаўшы гэта, невядомыя іх даламалі ды кінулі на зямлю.

Але найбольш пацярпеў мэмарыяльны знак ад народу ЗША, які быў усталяваны ў Курапатах 15 студзеня 1994 году ў часе візыту ў Менск Біла Клінтана. Знак уяўляе сабой мармуровую лаву, на якой рэльефна выбітыя словы "Ад народу Злучаных Штатаў Амэрыкі – народу Беларусі дзеля памяці" ***(на здымку з архіву IREX: прадстаўнікі пазьнейшай амэрыканскай афіцыйнай дэлегацыі ўскладаюць кветкі да яшчэ цэлага знаку памяці).***

Цяпер траціна гэтай лаўкі адламаная, якраз на словах "народу Злучаных Штатаў" і "народу Беларусі". Вакол шмат недапалкаў цыгарэтаў, коркаў ад піва, бітага шкла. Да ўсяго на самой лаўцы чырвонай крэйдай пакінуты нібы своеасаблівы аўтограф: па-расейску напісана "анархия"...

Хутчэй за ўсё, знак ужо немагчыма будзе аднавіць у ранейшым выглядзе. Першым заўважыў сьляды гэтага дзікунства актывіст Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ Уладзімер Юхо. Ён паведаміў журналістам, што ўсе барбарскія праявы былі зьдзейсьненыя тут хутка пасьля таго, як Лукашэнка праехаўся па кальцавой дарозе і заявіў, што менавіта на гэтым курапацкім участку адбудзецца пашырэньне аўтамабільнай трасы. Учынілі злачынства, на думку Ў.Юхо, хутчэй за ўсё сябры расейскай фашыстоўскай арганізацыі, якая пачувае сябе ў нас даволі ўтульна. Менавіта эр-эн-е-шнікі неаднойчы абяцалі зьнішчыць амэрыканскі падарунак.

У Курапацкім лесе паўсюль бачныя сьляды гульбішчаў – сьмецьце, кастрышчы... Дайшло вось і зусім да дзікунства.

*Валер КАЛІНОЎСКІ*



## Аднавіць законнасьць ніколі ня позна

***Фармаваньне камісіяў па выбарах прэзыдэнта ў Магілёве, як лічаць незалежныя назіральнікі і грамадзкія актывісты кампаніі, праходзіла з грубымі парушэньнямі выбарчага заканадаўства.***

Пры гэтым чыноўнікі дзяржапарату нават не абцяжарвалі сябе спробамі пераканаць грамадзкасьць у дэмакратычнасьці працэдуры хоць бы якімі захадамі. У адказ на парушэньні магілёўскія дэмакратычныя актывісты складаюць акты, пішуць заявы, перадаюць скаргі. Аднак плёну гэта, на жаль, не дае. Дырэктар Магілёўскага праваабарончага цэнтру Сяргей Абадоўскі, абышоўшы ўсе магчымыя мясцовыя інстанцыі, вырашыў дамагацца аднаўленьня справядлівасьці даволі своеасаблівым чынам, калі ўлічыць адрас ягонай скаргі.

Гісторыя пачалася з таго, што С.Абадоўскі ў адпаведнасьці з заканадаўствам быў вылучаны ў склад абласной камісіі па выбарах прэзыдэнта шляхам падачы заяваў грамадзянаў. Аднак у склад камісіі яго не ўключылі. Сумеснае паседжаньне аблвыканкаму і абласнога савету дэпутатаў адбывалася за зачыненымі дзьвярыма ды цягнулася ўсяго 20 хвілінаў, што, па словах С.Абадоўскага, сьведчыць пра папярэднюю падрыхтоўку фармаваньня абласной выбарчай камісіі. На ягонае патрабаваньне да адпаведных службовых асобаў паказаць яму дакумэнты паседжаньня і, у прыватнасьці, матэрыялы, на падставе якіх камісія была сфармаваная, ён атрымаў адмову. Высьветлілася таксама, што на дзень паседжаньня камісіі адсутнічаў пратакол сумеснага паседжаньня абласных выканкаму і савета аб прызначэньні ў камісію сваіх прадстаўнікоў (пратакол гэты зьявіўся пазьней самога паседжаньня). Сакратара камісіі Людмілу Макаранка гэта ніколькі не засмуціла. Аднак С.Абадоўскі справядліва лічыць, што не было юрыдычных падставаў праводзіць такое паседжаньне.

Абураны гэтымі фактамі праваабаронца накіраваў скаргу на імя Лукашэнкі ды Савету міністраў. У ёй ён даводзіць, што ў абласной выбарчай камісіі пераважаюць **"рэпрэзэнтанты апарату дзяржаўных органаў выканаўчай улады, дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацыяў, якія залежаць ад дзяржавы"**, што пярэчыць частцы 2-й 11-га артыкулу Выбарчага кодэксу, дзе замацаваны прынцып незалежнасьці камісіяў ад дзяржаўных органаў. Таксама ён указвае на факты збору подпісаў за патрэбных уладзе кандыдатаў у працоўных калектывах у працоўны час з удзелам прадстаўнікоў адміністрацыяў, што таксама ёсьць парушэньнем закону. У лісьце названыя й іншыя факты парушэньняў.

С.Абадоўскі зьвяртаецца да Лукашэнкі з прапановай адмяніць рашэньне пра стварэньне Магілёўскай абласной выбарчай камісіі, прыцягнуць да адказнасьці вінаватых асобаў ды прыняць захады па законным фармаваньні камісіі. С.Абадоўскі нагадвае, што ягоная скарга павінна быць разгледжаная цягам 3-х дзён.

Зараз яны ўжо мінулі, аднак ніякага па сутнасьці альбо хоць бы прамежкавага адказу праваабаронца не атрымаў. Цяпер ён мае законнае права зьвярнуцца па абарону сваіх правоў у суд, што і зьбіраецца зрабіць.

*Алесь ДАЙНЕКА, карэсп. RR – адмыслова для "ТМ"*




Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.

Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 7. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 16.08.2001 г. а 17.10.